# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Субота, 27 жніўня 1994 года — №90 (10790) — Цана 20 руб.


ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## У АДНОЙ ЗВЯЗЦЫ

Ім, намеснікам старшынь гаррайвыканкомаў, якія адказваюць за работу гандлю, даводзіцца сёння туга. Калі ў сельскіх магазінах тое-сёе з прадуктаў харчавання яшчэ можна набыць, то з прамысловымі таварамі бяда — хоць шаром пакаці. Усюды пуста, хіба дзе-нідзе ўбачыш туалетную паперу за пяцьсот рублёў. Не заўсёды можна купіць нават рэчы паўсядзённага ўжытку ў гарадскіх пасёлках, райцэнтрах. Ды і туды не вельмі наездзішся з-за дарагоўлі білетаў на аўтамабільны пасажырскі транспарт.

Катастрафічнае становішча спраў у эканоміцы, асабліва з выпускам тавараў народнага спажывання. Аб"ём прамысловай вытворчасці да ўзроўню 1990 года скараціўся летась амаль на 20 працэнтаў, а сёлета за сем месяцаў тэмп росту яе склаў толькі 83,8 працэнта. Многія віды тавараў, якія раней выпускаліся на нашых прадпрыемствах, вымушаны завозіць з-за межаў вобласці.

Адсюль і падзенне рознічнага тавараабароту дзяржаўнага і кааператыўнага гандлю, уключаючы і грамадскае харчаванне. Летась ён знізіўся ў параўнанні з 1990 годам па харчовых таварах на 90 працэнтаў, прамысловых — на 54. Сёлета ж аб"ём рознічнага тавараабароту ў фактычных цэнах павялічыўся ў 16,5 раза, а ў супастаўных упаў амаль на 52 працэнты. Гэта сведчыць аб росце толькі за кошт цэнавага фактару, што ніяк не задавальняе пакупніка. У натуральным жа выражэнні тавараў рэалізуецца ўсё менш і менш. Скажам, калі ў 1991 годзе ў вобласці было прададзена 25,7 тысячы халадзільнікаў, то летась — 16,6 тысячы, гадзіннікаў — адпаведна 528,4 і 356,5, пральных машын — 29,7 і 13,6, электрапыласосаў — 17,7 і 14,7 тысячы.

Падобны пералік можна працягваць бясконца. Пастаўка прадукцыі гандлю ўвесь час скарачаецца. Калі таварныя запасы на пачатак года складалі 52 дні, то на першае жніўня — 35 дзён.

Аднак нельга ўсё спісваць на дрэнную работу прамысловасці. Размовы аб пераходзе да рынку, самастойным гаспадаранні прывялі да некіруемасці арганізацыі гандлю, і перш за ўсё дзяржаўнага. Давялося чуць, што ўпраўленне гандлю незразумела кім і чым сёння кіруе. Упала дысцыпліна і адказнасць за забеспячэнне насельніцтва таварамі першай неабходнасці як з боку многіх прамысловых прадпрыемстваў, так і гандлёвых арганізацый. Апошнім трэба зніжаць і выдаткі вытворчасці для павелічэння аб"ёмаў уласных абаротных сродкаў, а таксама скарачаць лішнія звенні на шляху тавару ад вытворцы да пакупніка.

Факты сведчаць: там, дзе не чакаюць, пакуль ім хтосьці запоўніць паліцы магазінаў, а самі шукаюць пастаўшчыкоў, наладжваючы з імі прамыя сувязі, ёсць што прапанаваць людзям. І правільна на нарадзе намеснікаў старшынь гаррайвыканкомаў, якім мы паспачувалі ў пачатку заметкі, быў кінуты ў іх адрас папрок, што тут вялікая доля і іх віны. Яны ў адной звязцы з вытворцамі і прадаўцамі і нясуць персанальную адказнасць за стан рынку ў сваім рэгіёне.

— Органы мясцовай улады павінны трымаць пад строгім кантролем выпуск тавараў народнага спажывання і рабіць усё магчымае для таго, каб чалавек змог спакойна купіць усё што яму трэба, — падкрэсліў намеснік старшыні аблвыканкома К.І.Туровіч, які вёў нараду. — Прынята рашэнне пастаўляць прадукцыю без перадаплаты. Аднак гандаль абавязаны аплаціць яе праз 3-5 дзён. Паўсюдна неабходна наладзіць кантроль за выканаўчай дысцыплінай, а да парушальнікаў прад"яўляць строгія патрабаванні, даваць іх паводзінам прынцыповую ацэнку.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

■ Актуальнае інтэрв'ю

## ШЛАГБАУМ ДЛЯ БАТОНА,

### які кіруецца з прылаўка магазіна ў свіное карыта. Ці будзе ён надзейным?

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў жніўні па тэлебачанні, заявіў, што з гэтага часу сяляне не будуць скормліваць хлеб жывёле. Для яе гадоўлі праз гандлёвую сетку дзяржава будзе рэалізоўваць камбікорм.**

**— Як выконваецца на практыцы гэтае ўвогуле разумнае патрабаванне кіраўніка дзяржавы? — з такім пытаннем карэспандэнт "Мінскай праўды" звярнуўся да генеральнага дырэктара абласнога вытворчага аб"яднання хлебапрадуктаў М.Ю.БУРАКА.**

— Ужо 10 жніўня, — сказаў Мікалай Юльянавіч, — Кабінет Міністраў рэспублікі выдаў распараджэнне, згодна з якім сёлета з дзяржаўных рэсурсаў для продажу насельніцтву выдзяляецца 60 тысяч тон канцэнтраваных кармоў. Пры гэтым устаноўлена, што іх продаж менавіта сёлета ў жніўні павінен ажыццяўляцца па цане ад 2,5 да 4 тысяч рублёў за кілаграм /цэны да 20 жніўня г.г./ у залежнасці ад рэцэптуры.

Для нашай вобласці з гэтых рэсурсаў выдзелена 13,5 тысячы тон. Аблвыканком сваім распараджэннем размеркаваў канцэнтраты па раёнах і гарадах вобласці, прапанаваў райгарвыканкомам вызначыць і абсталяваць месцы іх рэалізацыі. У мэтах выканання гэтых дакументаў мы ў аб"яднанні размеркавалі і замацавалі раёны і гарады вобласці за нашымі камбікормавымі прадпрыемствамі, каб пазбегнуць непаразуменняў пры атрыманні камбікорму. Напрыклад, за Слуцкім камбінатам хлебапрадуктаў замацаваны Слуцкі, Любанскі, Старадарожскі і Салігорскі раёны, а таксама гарады Слуцк і Салігорск.

**— Мікалай Юльянавіч, добра, што ўсё загадзя раскладзена па палічках. Аднак гэта на паперы. А як яно атрымліваецца ў натуры?..**

— Так, згодзен з вамі — папера тут не галоўнае. Важней за ўсё тое, што ёсць /ці будзе/ у калгасных і дзяржаўных засеках. Таму хачу звярнуць вашу ўвагу на наступныя лічбы. Для вытворчасці мукі, круп і камбікармоў для птушкагадоўчых гаспадарак і жывёлагадоўчых комплексаў на год патрэбна 242 тысячы тон жыта, 230 тысяч тон мяккай прадуктовай пшаніцы, 100 тысяч тон — цвёрдай, 111 тысяч тон — фуражнай, 205 тысяч тон фуражнага ячменю, 70 тысяч тон зерня кукурузы і 26 тысяч тон аўса.

Мы таксама падлічылі, што могуць прадаць гаспадаркі вобласці. Вынікае наступнае: для бесперабойнага забеспячэння насельніцтва мукой і крупамі, а комплексаў і птушкафабрык — камбікармамі неабходна дадаткова закупіць да 1 жніўня 1995 года 227,3 тысячы тон мяккай прадуктовай пшаніцы, сто тысяч тон — цвёрдай, якой у нас няма ўвогуле, 96,5 тысячы тон — фуражнай, 152,6 тысячы тон ячменю для камбікорму, 70 тысяч тон зерня кукурузы і інш.

Словам, агульная наша патрэбнасць у збожжы складае 1 мільён 93,4 тысячы тон. Закуплена будзе ў гаспадарках вобласці 415 тысяч тон. А астатняе неабходна знайсці дзесьці за межамі вобласці і рэспублікі, для чаго трэба ні многа, ні мала — 163 мільярды 220 мільёнаў рублёў /у цяперашнім вылічэнні/.

**— Гэта планы. А што ўжо ёсць у засеках, каб вырабляць камбікорм?**

— У Мінску ў нас пшаніцы — на 10 дзён работы, у Слуцку — на столькі ж. Прыблізна такое ж становішча і па іншых прадпрыемствах. За выключэннем Маладзечна, дзе камбінат становіцца на рамонт. Адсутнічае пшаніца цвёрдых сартоў, і ўжо з мінулай пятніцы наш млын не выдае муку для вырабу макаронаў.

**— Значыць, і выраб камбікармоў для рэалізацыі насельніцтву пад пытаннем?**

— Не. Для вырабу камбікорму — а людзі купляюць у асноўным яго для свіней, збожжа ёсць. Праўда, не столькі, каб можна было, як кажуць, спаць спакойна. Аднак купіць яго заўсёды можна. Камерцыйныя структуры прапануюць амаль штодзень. Складанасць у тым, што няма сродкаў на пакупку зерня. Крэдыт для гэтай мэты банкі пакуль не даюць. Мяркую, аднак, што праз тыдзень-другі грошы ўсё ж знойдуцца.

Гэтае пытанне мы абмяркоўвалі ўжо ў аб"яднанні на савеце дырэктараў нашых прадпрыемстваў. Прысутнічаў старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч. І мы прынялі рашэнне адпускаць камбікорм насельніцтву, нават не прытрымліваючыся разнарадкі. Трэба браць у банках грошы, купляць сыравіну — збожжа, дабаўкі — і вырабляць, прадаваць камбікорм. На сённяшні дзень мы не абмяжоўваем гандаль. Гаворым яго прадстаўнікам: "Бярыце колькі хочаце!.."

**— І колькі рэалізавалі ўжо? Скажам, за жнівень?**

— Райспажыўтаварыствам перадалі 2 тысячы тон. Некалькі соцень тон рэалізавана на ўласных прадпрыемствах. Пры гэтым мы ўлічваем вясковую сітуацыю: калгаснікі, атрымаўшы дадатковую зямлю, цяпер маюць магчымасць вырошчваць збожжа, могуць атрымаць ці купіць яго ў калгасах. Камбікорм у вёсцы не з"яўляецца прадметам вострай неабходнасці. Там асабліва зацікаўлены ў ім настаўнікі, самі работнікі гандлю. Таму больш звяртаем увагі на раённыя цэнтры, гарпасёлкі, дзе людзі не маюць магчымасці атрымаць збожжа, а жывёлу гадуюць.

Для паляпшэння ўмоў набыцця камбікорму ў Клецку і Пухавічах адкрылі свае ўласныя магазіны. У Клецку — на камбікормавым заводзе. Непадалёк ад прахадной установілі бункер. Чалавек можа пад"ехаць, колькі трэба насыпаць у мяшкі. Тут жа разлік. Я параіў дырэктару завода адкрыць такія ж магазіны ў населеных пунктах пасялковага тыпу Заастравечча і Сіняўка.

Ствараецца такі пункт у Маладзечне. Карацей, ставім задачу, каб кожны наш завод, прадпрыемства, нават участак гандлявалі камбікормам.

І хачу падкрэсліць: не ад таго, што, маўляў, неразумныя людзі ў вёсцы, выкарыстоўваўся раней для гадоўлі свіней, птушкі і іншай жывёлы нялёгкай працай здабыты і выпечаны хлеб. Па-першае, ён быў танны, а, па-другое, не так ужо і многа вепручкам ды курам вяскоўцаў даставалася камбікорму. Яго больш выкарыстоўвалі калгасы і саўгасы. Таму рашэнне Прэзідэнта рэспублікі, пра якое вядзём сёння гаворку, — своечасовае і правільнае.

*Іван АБАБУРКА.*

## "ЭКСПРЭС-2" НА ПАДЫХОДЗЕ ДА ПУХАВІЧАЎ

На Беларускай чыгунцы ўводзіцца сістэма механізаванага продажу білетаў "Экспрэс-2".

Як стала вядома карэспандэнту РІДа, асаблівасць новай сістэмы заключаецца ў тым, што з яе ўвядзеннем білетнаму касіру не патрэбна будзе па заказу пасажыра рабіць запыт у дыспетчара па выдзяленню месц на саставы.

Касір атрымлівае магчымасць самастойна праз тэрмінал узяць неабходнае месца. Гэта намнога спрашчае і паскарае працэс набыцця білетаў.

На першым этапе сістэма "Экспрэс-2" была ўведзена ў касах папярэдняга і сутачнага продажу білетаў у Мінску і абласных цэнтрах. Зараз новай тэхнікай пачалі абсталёўвацца і прамежкавыя станцыі.

Так, у жніўні такі тэрмінал быў прыняты ў эксплуатацыю на станцыі Аранчыцы Брэсцкага аддзялення чыгункі. На чарзе ўстаноўка іх на станцыях Жодзіна і Пухавічы.



## У МАЦІ ПРЭМ'ЕРА

*У народзе кажуць: жыццё пражыць — не поле перайсці. За свае 85 гадоў Настасся Пятроўна Чыгір прайшла шмат дарог. Калі ўсе гэтыя кіламетры скласці ў адну лінію, дык, пэўна, вакол экватара абкруціцца. Усяго хапіла на жыццёвым шляху: і шчасця спазнала, і гора не абмінала сялянскую хату Чыгіроў, што ў вёсцы Усава на Капыльшчыне. Аднак побач заўсёды быў муж, калгасны брыгадзір, а затым старшыня рэвізійнай камісіі Мікалай Сямёнавіч. Жылі, як кажуць, душа ў душу, ва ўзаемнай павазе і згодзе. Дружна працавалі на калгасных палетках, грунтоўна ладзілі асабістую гаспадарку. А яшчэ займаліся пчалярствам. У Усаве Чыгіроў ведалі як знатных пчаляроў. Прычым, калі выпадала такая нагода, шчодра дзяліліся мядком і з аднавяскоўцамі. Бо мёд жа, вядома, ад прастуды і іншых хвароб — першы сродак.*

*Нягледзячы на ўзрост, Настасся Пятроўна і сёння праводзіць шмат часу на асабістай пасецы, падглядае вуллі. А пчолкі, дзякуй Богу, сёлета папрацавалі нядрэнна. Таму, калі завіталі да Чыгіроў, адразу ж у сенцах дыхнула ў твар духмяным водарам. Настасся Пятроўна тут жа запрасіла за стол, наліла цэлую міску бурштынавага, быццам наскрозь пранізанага сонечнымі промнямі, мёду. І адмовіцца было нельга — ад шчырага сэрца частавала гасцей. За сталом жа расказала і пра свае турботы. Знайшліся, як высветлілася, зайздрослівыя людзі, якія ў мінулым годзе ўкралі пяць вуллёў. Як у іх рукі не паадсыхалі, калі пакваліліся на чужое дабро, пакрыўдзілі старэнькую.*

*Прызнацца, параілі Настассі Пятроўне звярнуцца за дапамогай да сына Мішы. Ён жа сёння не абы-хто, узначальвае беларускі ўрад. Так, менавіта ў Усаве карані цяперашняга прэм"ер-міністра рэспублікі Міхаіла*



*Мікалаевіча Чыгіра. У невялічкай драўлянай хаце, дзе так добра дыхаецца і соладка спіцца, прайшло яго дзяцінства, тут былі яго першыя "універсітэты". Недарма кажуць: яблык ад яблыні недалёка падае. Ад бацькоў пераняў Міхаіл Мікалаевіч працавітасць, кемлівасць, упартасць у дасягненні пастаўленай мэты. Гэтыя якасці ой як спатрэбяцца яму на высокай пасадзе, якую займае сёння. Таму што менавіта Чыгіру і ўзначальваемаму ім ураду наканавана лёсам выводзіць рэспубліку з крызісу.*

*Настасся Пятроўна, праўда, крыўдуе на сына: няма ў яго цяпер часу, каб раз-пораз, як раней, наведацца да маці — дзяржаўныя турботы не дазваляюць. Але разумее, што інакш нельга — за дзяржаву ў адказе. І ўсё ж шчыміць, баліць матчына сэрца, вочы праглядзела: калі прыедзе Міша? Для яе ён застаўся ўсё тым жа хлапчуком, няхай і сам мае дарослых дзяцей.*

*Вечарам жа, управіўшыся з хатнімі справамі, садзіцца да тэлевізара, пільна ўглядаецца ў блакітны экран — можа, Мішу пакажуць?*

*Раман СЯРГЕЕЎ.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ДЗЕ ТЫ, ГІМЕНЕЙ?

Даўно ўжо не радуюць нас статыстычныя даныя, што тычацца натуральнага прыросту насельніцтва ў рэспубліцы. Не сталі выключэннем і тыя, што зафіксаваны на Міншчыне ў першым паўгоддзі 1994 года.

Як паведаміла рэдакцыі абласное ўпраўленне статыстыкі, за гэты перыяд у нашым рэгіёне нарадзілася 8.817 чалавек, а памерла 12.078. Натуральны прырост насельніцтва назіраецца ў дваццаці шасці з сарака двух гарадскіх паселішчаў. Склаў ён 1.017 чалавек. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў цэлым па вобласці колькасць нованароджаных знізілася на 4, а памёршых — павялічылася на 4,5 працэнта.

У нашых вёсках пераступіўшых апошнюю мяжу аказалася ў 2,1 раза больш, чым тых, хто ўпершыню ўбачыў белы свет. У Вілейскім і Старадарожскім раёнах гэтая лічба нават вышэйшая — памёршых у тры разы больш за народжаных.

Якія ж немачы часцей падкошвалі жыхароў Міншчыны? Хваробы сістэмы кровазвароту /47,1 працэнта/, новаўтварэнняў /12,6 працэнта/, органаў дыхання /6 працэнтаў/. Нямала і загінуўшых у выніку няшчасных выпадкаў, забойстваў, самагубстваў /9,6 працэнта/. Ва ўзросце да года памерла сто дзевяць дзяцей, трыццаць нарадзіліся мёртвыя.

На жаль, радзей у нас цяпер гуляюць вяселлі. Зарэгістравана за паўгоддзе 4.712 шлюбаў, што на 13,9 працэнта менш, чым летась. 3.086 сем"яў разарвалі вузы Гіменея.

## СТОГАДОВЫ ЖЫХАР ЖОДЗІНА

Калі будзе перавыдавацца кніга "Жодзіна", то, на мой погляд, варта ўвесці новы раздзел і назву яму даць "Старажылы горада". Вядома, пачнецца ён з Настассі Фамінічны Купрыянавай, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны праводзіла на абарону Радзімы аднаго за адным пяцярых сваіх сыноў. Ніводзін не застаўся ў жывых. Подзвіг маці-патрыёткі скульптары А.Заспіцкі, І.Міська, М.Рыжанкоў і архітэктар А.Трафімчук адлюстравалі ў мемарыяле, што ўзведзены ў горадзе. Звыш ста гадоў пражыла маці жодзінскіх герояў. Такое даўгалецце наканавана лёсам, каб нашчадкі новых і новых пакаленняў змаглі да канца спасцігнуць прыцягальную сілу маці і Бацькаўшчыны, без якіх немагчымае іх жыццё.

А гэтымі днямі жодзінцы шчыра павіншавалі яшчэ аднаго жыхара з уступленнем у другое стагоддзе свайго жыцця. Такога шаноўнага ўзросту дасягнуў Павел Яўменавіч Булаўскі. Прырода надзяліла яго добрай памяццю, ясным розумам. Згадаць гэтаму чалавеку ёсць аб чым. Прымаў удзел у першай сусветнай вайне, служыў ён тады ў царскай арміі, быў ліхім кавалерыстам. Здарылася так, што накіравалі маладога салдата ў ветэрынарную школу, пасля заканчэння якой Павел Яўменавіч працаваў па спецыяльнасці. Дарэчы, не здрадзіў ён гэтаму занятку і ў мірным жыцці. Некалькі дзесяцігоддзяў быў ветэрынарным урачом.

З новым стагоддзем Вас, дарагі Павел Яўменавіч! Далёка не кожнаму наканавана такое доўгае жыццё. Мацуйцеся! Ганарова быць старэйшынай горада.

*Уладзімір КОБРЫН.*

## НЕ ПІ, НЕ ЗВАНІ І Ў КІНО НЕ ХАДЗІ

Не прайшло і тыдня пасля дэнамінацыі беларускага рубля, а адпаведна і скарачэння ў дзесяць разоў цэн, як тыя ж цэны пачалі скакаць у бок павышэння.

З 25 жніўня ў сярэднім на 75 працэнтаў узраслі цэны на белую гарэлку. Паўлітроўка "Пшанічнай" і "Сталічнай" са звычайным афармленнем без кошту самой бутэлькі цэніцца цяпер у 4.950 рублёў, а ў падарачным выкананні — 5.010. За "Маскоўскую" і "Рускую"" трэба выкласці адпаведна 4.880 і 4.940 рублёў, а "Белая Русь" самая дарагая — 5.390 рублёў.

З гэтага ж дня ў чатыры разы выраслі тарыфы на тэлефонныя размовы з абанентамі ў краінах СНД.

Устаноўлены новыя цэны на білеты ў кінатэатрах. Наведанне аднаго сеанса ў кінатэатры вышэйшага разраду каштуе цяпер 700 рублёў, першага — 600, другога — 400 і трэцяга разраду — 300 рублёў. Двухсерыйныя і прэм"ерныя фільмы абыдуцца наведвальнікам амаль у два разы даражэй.

Адным словам, не пі, не звані і ў кіно не хадзі.

*/НАШ КАР./.*

## ДВУХНОГІЯ ЖУКІ

У салігорскай мясцовай газеце з"явілася папярэджанне групы пенсіянераў, якія маюць агароды побач з горадам: ведайце, зладзеі, што мы на ўчастках выкапалі і замаскіравалі воўчыя ямы, калі трапіце туды — не крыўдуйце... Справа ў тым, што ім трэба бараніць свае пасевы не толькі ад жукоў каларадскіх. А і ад двухногіх. Позна вечарам, ноччу дармаеды бессаромна капаюць чужую бульбу, ірвуць цыбулю, часнок, агуркі. Не толькі сабе на салату. Некаторыя нясуць дармавыя прадукты прама на рынак...

Лазяць па чужых агародах не толькі «крутыя» бамбізы. Неяк пазней звычайнага адна жанчына прыйшла на свой участак, а 64-гадовая пенсіянерка Зоя А. там ужо ўраджай збірае — сем кілаграмаў цыбулі нарвала... Выклікалі міліцыю, крымінальную справу ўзбудзілі. Мо атрымае зладзейка так, што дзесятаму закажа?

— Мы хутка збяром усе матэрыялы і перададзім іх у суд, — сказалі ў крымінальным аддзеле ГРАУС. — Па закону, жанчыне «свеціць» некалькі гадоў зняволення. Але хутчэй за ўсё яе чакае не надта суровае пакаранне.

Значыць, з гэтай хмары гром вельмі слабы. Які, вядома ж, не зможа адпудзіць двухногіх жукоў ад участкаў бедных пенсіянераў.

*/НАШ КАР./.*

Окно ГАИ

## ВНИМАНИЕ: ДЕТИ!

12 августа в дер.Малиновка Логойского района под колесами мотоцикла оказался 8-летний пешеход. Ребенок получил тяжелую травму головы и сейчас находится в больнице... Учащийся 9-го класса СШ № 3 г.Логойска Вадим Павлович в августовский вечер, не имея навыков езды, сел за руль незарегистрированного в госавтоинспекции мотоцикла. Роковым стало то обстоятельство, что новоиспеченный водитель в темное время суток ехал без включенных фар...

На автодороге Ляды—Погорельцы в Смолевичском районе опрокинулся трактор Т-16. Телесные повреждения получили учащиеся Минского ПТУ № 55 В.Луговой и Прилепской средней школы М.Гельтяпин. Как выяснилось позже, несовершеннолетние самовольно взяли трактор и решили немного покататься. Поездка закончилась больничной койкой.

Нынче тенденция роста числа происшествий с участием школьников еще более обострилась. Только с начала августа на дорогах области уже зарегистрировано 24 ДТП, в которых пострадали 33 подростка. Как свидетельствует статистика, данная цифра уже сегодня превышает любой месячный показатель текущего года. Наряду со ставшими уже, к сожалению, традиционными нарушениями /переход проезжей части в неустановленном месте или неожиданный выход на дорогу перед близко идущим транспортом из-за стоящего автомобиля/ участились случаи автонаездов на юных велосипедистов. Большинство этих аварий произошли на дорогах в сельской местности.

Нужно помнить о том, что многие школьники, вернувшись после летнего отдыха домой, отвыкли от интенсивного движения на городских улицах и дорогах. В силу этого в последние дни августа, возможно, будет наблюдаться увеличение количества ДТП с участием детей.

Учитывая тревожную обстановку, госавтоинспекция Минской области проводит с 20 августа по 10 сентября целевую профилактическую операцию «Внимание: дети!» В эти дни работники ГАИ усилили контроль за соблюдением скоростных режимов в населенных пунктах и вблизи школ. Не должны оставаться в стороне и взрослые. Учителя и родители обязаны напоминать детям о необходимости соблюдать осторожность на дорогах. Следует помнить, что наша общая забота о детях, максимальный контроль за их поведением гарантирует им безопасность.

*Сергей ШОСТАК, сотрудник УВД облисполкома.*

■ Экономика: реформация и деформация

**На днях один ответственный работник облисполкома высказал мнение, что антимонопольная политика и роль территориального управления непонятны, а антимонопольное законодательство — несовершенно. Относительно совершенства законодательства спорить не стану, так как совершенству предела нет. Но то, что такую политику мы должны проводить, — бесспорно.**

**12 декабря 1992 года Верховным Советом Республики Беларусь был принят Закон "О противодействии монополистической деятельности и развитии конкуренции". В истории Беларуси этот закон является первым антимонопольным нормативным актом. Он впитал зарубежный опыт и направлен на ограничение монополистической деятельности не только хозяйствующих субъектов, но и органов власти и управления.**

**Для контроля за монополистической деятельностью хозяйствующих субъектов и за соблюдением закона в республике создан антимонопольный комитет, а в областях и столице — его территориальные органы. Их задачи : предупреждение, ограничение и пресечение негативных проявлений монополизма на областном рынке; создание конкурентной среды; перестройка хозяйственного комплекса области при изменении соотношений собственности.**

# УПРАВА НА МОНОПОЛИЮ

За первый год работы областного территориального управления по антимонопольной политике проверено более 40 хозяйствующих субъектов, в том числе 10 объединений, на предмет соблюдения антимонопольного законодательства. По итогам проверок направлено 14 предписаний.

Сформированы реестр и регистр предприятий- монополистов, занимающих доминирующее положение на рынках области по продаже товаров и оказываемым услугам. Замечу, реестр — это перечень предприятий-монополистов, имеющих на рынке товаров и услуг долю более 30 процентов, а также нарушающих антимонопольное законодательство. Для монополистов, включенных в реестр, предусмотрен ряд ограничений. Они не должны снижать объемы поставок продукции на рынок, обязаны декларировать любое повышение цен на монопольную продукцию, не имеют права при заключении договора поставок навязывать контрагенту условия, не относящиеся к договору.

В государственный реестр занесены 49 предприятий области. Среди них — Борисовская макаронная фабрика, трикотажная "Свитанак" в г.Жодино, швейная "Комсомолец" в г.Молодечно, ПО "Беларуськалий".

Государственный реестр и регистр систематически обновляются в связи с изменением положения предприятий на рынке. Наличие этих документов позволяет оперативно принимать меры по выявлению и устранению нарушений антимонопольного законодательства. В 1993 году отделом цен облисполкома при декларировании снижены цены на товары и услуги на 9,9 млрд.рублей, а за первое полугодие текущего года — на 7,2 млрд.рублей /в старом исчислении/.

На заводе "Агромаш" в г.Дзержинске, который является монополистом по отпуску теплоэнергии, в договорах поставок контрагенту навязывались условия, не относящиеся к предмету договора, завышались цены. По нашему предписанию нарушения устранены.

Концерн "Белтопгаз", используя свои возможности монополиста на рынке газа, в договорах навязывал потребителям поставку взамен газа материальных ценностей.

Руководство Копыльского молочного завода необоснованно отказывает АО "Прогресс" в заключении договора на переработку молока, закупаемого у населения. Таким образом, дирекция молочного завода препятствует вхождению в рынок других хозяйствующих субъектов, что противоречит антимонопольному законодательству.

Меры, направленные на демонополизацию рынка, должны осуществляться по основным группам товаров, работ и услуг. Проведен анализ доли предприятий государственной торговли, общественного питания и услуг на рынках, изучена работа предприятий торговли и общественного питания в Борисове, Слуцке, Молодечно, Несвиже, Вилейке.

Сейчас торговая сеть городов области насчитывает 834 магазина, 42 процента из них являются коммунальной собственностью. За последние годы 58 предприятий торговли приватизированы, 48 — вышли из состава торговых объединений и работают как самостоятельные юридические лица, 30 — переданы другим фирмам. В городах области населению оказывает торговые услуги 271 магазин негосударственной формы собственности, более 200 — принадлежат производителям продукции.

В государственной торговле наметились положительные тенденции по демонополизации отрасли. Выделенные из состава объединений магазины, как правило, имеют высокую производительность труда, улучшили экономику, культуру обслуживания.

Активно эта работа проводится в г.Молодечно. Здесь на начало года функционировали 64 магазина и 24 точки общественного питания негосударственной формы собственности. В городе практикуется продажа магазинов на аукционах.

В ряде мест работа по разукрупнению сдерживается, а если проводится, то формально. В Борисове промторг, трест столовых и ресторанов преобразованы в производственные объединения с сохранением монопольных функций на торговлю и определение размера торговых наценок. Сейчас управлением рассматривается заявление директоров четырех магазинов. Они желают выйти из состава торгово-производственного предприятия "Веста". Руководители горисполкома выступают за рыночные реформы, но только без права трудовых коллективов на инициативу, ответственность и получение дохода. Думается, что практика, время, происходящие изменения в экономике будут доказательством несостоятельности их мышления и действий.

Сложно продвигается демонополизация в сфере бытового обслуживания населения области. В этой отрасли только 458 работников занялись предпринимательством. Из переданных 586 предприятий только треть сохранили прежний вид деятельности. Сдано в аренду другим хозяйствующим субъектам 143 подразделения и только 55 занимаются оказанием прежних услуг.

Кризисный характер развития производства обязывает руководителей предприятий, особенно органы власти и управления, принимать меры по уменьшению товарного дефицита на рынках области.

Анализ работы народных предприятий Борисовской, Дзержинской, Клецкой, Несвижской и Узденской швейных фабрик показывает, что основные производственные мощности и рабочая сила предприятий используются на изготовление изделий для зарубежного покупателя.

Разумеется, надо приветствовать интеграцию наших предприятий со странами дальнего зарубежья. Но не способствует выходу из кризиса их работа на западный рынок, когда существует огромный дефицит продукции предприятий на местном рынке. А то, что остается после отправки продукции в Италию, Голландию, США, Германию и другие страны, направляется не местному торгу или райпотребсоюзу.

Думается, что горрайисполкомы должны тщательно проанализировать сложившуюся ситуацию и принять взвешенное решение. Вдумайтесь: денежная масса в виде заработной платы поступает населению города или района, а товары вывозятся. Диспропорция между денежной и товарной массами растет. Следует помнить, что в большинстве своем эта группа предприятий не является монополистом на местных рынках. Следовательно, декларировать цены на продукцию нет оснований. Но государственный контроль за производством и распределением необходим.

В области развивается предпринимательство. Сейчас функционирует более 100 кооперативов, 878 малых предприятий и обществ с ограниченной ответственностью, 163 совместных предприятия. Почти 13 тысяч граждан занимаются предпринимательством без образования юридического лица. Зарегистрирован и начал работу областной фонд финансовой поддержки предпринимательства.

Сотрудники управления изучили развитие предпринимательства в городах Молодечно, Солигорск, Жодино, Солигорском, Минском и Червенском районах. Однако медленно растут объемы производства товаров народного потребления и оказываемых услуг. Основной капитал создается посредством купли-продажи, на разнице цен. Государство должно поддерживать предпринимательство, но только товаропроизводящее. Малый бизнес должен быть носителем научно-технического прогресса, способствовать созданию новых рабочих мест, конкурентной среды на рынках.

**Специальные государственные органы системы контроля за монополистической деятельностью есть во всех странах. В Германии это федеральное управление картелей, в Великобритании — управление справедливой торговли, в США — федеральная торговая компания, Польше, России — антимонопольные комитеты. Создание антимонопольных органов в нашей республике — это закономерный процесс рыночной экономики.**

**На конкурентных рынках покупатели смогут выбирать поставщиков и продавцов, цены приблизятся к себестоимости. Продавцы будут стремиться снизить расходы до самого низкого уровня, а монопольно высокие прибыли, неэффективное и расточительное производство исключаются.**

*Мифодий БОНДАРЧИК, начальник областного территориального управления по антимонопольной политике.*

# ДУХМЯНЫЯ ПЯЛЁСТКІ "ВАЛОШКІ"

Так склалася, што самадзейныя калектывы Лагойшчыны рэдка прымаюць удзел у абласных аглядах-конкурсах. "Парог", які яны не могуць пераступіць, — нізкае майстэрства, беднасць рэпертуару, жанраў. І вось зроблены "прарыў". Заслужыў права выступаць на рэспубліканскім фестывалі юных талентаў "Сымон-музыка" ансамбль Лагойскай дзіцячай музычнай школы "Валошкі", які паказаў цікавую праграму "Купальскае свята". Калі хлопчыкі і дзяўчынкі "працавалі" на сцэне, стваралася ўражанне, што слухачоў нейкая патаемная сіла перанесла да купальскага вогнішча, уцягнула іх у карагоды, у пошук кветкі шчасця...

"Валошкам" усяго два гады. Але ансамбль за гэты час даў дзесяткі канцэртаў. Паспяхова выступілі перад працоўнымі г.Барысава. Юныя артысты актыўныя ўдзельнікі ўсіх святаў, якія ладзяцца ў парку райцэнтра. Атрымалі не адну падзяку ад хлебаробаў, якіх нярэдка радуюць сваім талентам.

Кіруе ансамблем "Валошкі" выкладчыца дзіцячай музычнай школы Людміла Іосіфаўна Шут, якая добра ведае беларускую нацыянальную культуру, традыцыі, абрады роднага краю. Усё гэта яна перадае дзецям. Адным словам, далёка за межы Лагойшчыны паплыў духмяны пах пялёсткаў "Валошкі"...

■ Сатырычным пяром

# СХАПІЛІСЯ ЗА САЛОМКУ...

Хто каго бачыць здалёку? Не толькі рыбак рыбака, а і наркаман наркамана. Нават нутром сваім адзін другога чуюць. Вось як Е.А.Лешчанка і А.І.Дацэнка, напрыклад. Здавалася, ніколі не сустрэнуцца: першы жыў, хоць і не вельмі, усё ж працаваў у калгасе "Палажэвічы" Старадарожскага раёна. Другі без справы недзе на Украіне бадзяўся.

І на табе — сустрэліся. Паехаў Лешчанка ў суседнюю рэспубліку, знайшоў там Дацэнку. Іх умомант зблізілі наркатычныя пахі. Пагужаваліся, пабалдзелі на зямлі ўкраінскай. Потым Дацэнка на Старадарожчыну сяброўскі візіт у адказ нанёс.

Тут украінскі госць затрымаўся даволі надоўга. Бо ў перапынках паміж наркатычнымі "мульцікамі" і алкагольным ап"яненнем мужыкі ўдзень аб"язджалі навакольныя і больш аддаленыя мясціны, "засякалі", дзе мак расце. А ноччу кралі яго. Такім чынам сцібрылі 30 кілаграмаў макавых сцёблаў і каробачак — найпершай сыравіны для прыгатавання опіуму.

У які час апетыт прыходзіць — усім добра вядома. А калі размова ідзе не проста пра яду, а вырашаецца праблема закусі?.. Карацей, неяк добра выпіўшы, мужыкі задумалі разжыцца мясам. У чатыры гадзіны раніцы прабраліся на малочную ферму вёскі Кармазы. Выбралі не самую худую карову вагой больш за чатыры цэнтнеры. Учапіліся за рогі. Карова ўперлася — ні з месца...

"Мабыць, спіртнога блізка не пераносіць, — вырашылі Лешчанка і Дацэнка. — Вяроўка патрэбна..." Пад рукі трапіў мяшок, пачалі яго на палоскі рваць, звязваць. Але тут раптам нячыстая сіла вартаўніка прынесла. Уратавалася кароўка...

Моцна лаяў у душы, і не толькі ў ёй, Лешчанка вартаўніка ненармальнага, які чамусьці ноччу не спіць. Але ж ён не з тых, каб адступаць ад задуманага. І праз паўгадзіны Лешчанка завітаў на другую ферму. Ужо свінагадоўчую. Дацэнка быццам бы быў у "поўнай адключцы", таму Лешчанка камандаваў парадам сам. Выбраў ладнага парсюка, кілаграмаў пад сорак. Уладкаваў яго побач з Дацэнкам. І памчаў у вёску Будзенічы да знаёмага.

— Вось, дзіка ў лесе злавілі, — растлумачыў. — Давай нож, свежына будзе...

Карацей, добра паласаваліся мужыкі парасяцінкай. Цяпер кожны з дваіх на працягу пяці гадоў будзе ўспамінаць смак дармавога далікатэсу — на такі тэрмін народны суд пазбавіў волі зладзеяў. З канфіскацыяй маёмасці. Праўда, адкуль тая маёмасць у наркаманаў, п"яніц? Хіба толькі шпрыц з іголкай ды шклянка...

А ўсё з чаго пачалося? З таго, што мужыкі за саломку схапіліся...

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## ВЯСКОВЫЯ БУДНІ

*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ*







■ Вось так і жывём

# "ЧУМАДАНЧЫК" ДЛЯ МАРЫЛІ

**У незайздросным становішчы апынуліся сёння многія састарэлыя людзі. Тыя, хто ваяваў з ворагам у гады вайны, хто будаваў "светлае будучае".**

Васіль Сандрозд устае на золку. І не таму, што ў старасці менш спіцца, а таму, што трэба "пыніць па гаспадарцы". Марыля ў апошнія гады часта хварэе, па некалькі разоў на год ляжыць у бальніцах. І ўся нагрузка кладзецца на гаспадара. Як-ніяк трэба дагледзець свіней, курэй, трымаць у парадку соткі. Бульба ж сёлета ад спёкі не ўрадзіла. Нават зелля ў агародзе, здаралася, не нарвеш. Уся надзея на тое, што калгас, як і ў мінулыя гады, прадасць некалькі мяхоў збожжа, каб было чым зімою карміць жыўнасць.

— У мяне таксама здароўе кульгае, — гаворыць Васіль. — У грудзях нешта сціскае. Ездзіў у бальніцу. Прасвяцілі там на рэнтгене і кажуць, што нічога страшнага няма. Але ж, відаць, кантузія дарэмна не прайшла.

Мы сядзім на лавачцы ў цяньку пад яблыняй. В.Сандрозд, высокі, хударлявы, "перагортвае" старонкі свайго жыцця:

— У маладосці я быў спрытны і дужы. Бацька вельмі хацеў вывесці мяне ў людзі. За "польскім часам" гэта было няпроста. Удалося ўсё ж уладкавацца ў Клецку вучнем да яўрэя-мэбельшчыка. Тры гады спасцігаў сакрэты гэтай прафесіі. Многіх "адсявалі", асабліва тых, у каго рукі не гнуліся да рубанкаў і гэблікаў. Я вытрымаў усё як мае быць. І ведаеце, выраб мэблі, сталяркі стаў маім прызваннем, даваў сродкі для жыцця.

Васіль змаўкае, глядзіць на ўнучак Інку і Светку, праўнучку Волечку, якія гуляюць у садзе.

— Во, для іх хочацца пажыць, — гаворыць ён. Маршчыністы, загарэлы твар Васіля святлее. — На лета прыязджаюць сын з нявесткай, дачка з зяцем, іх дзеці. Трохі шумна, турботна, але і радасна.

Прыгадаў В.Сандрозд і свае ваенныя паходы. Служыў ён у мінамётнай роце. Даводзілася не раз быць у самым пекле баёў. Недалёка ад Кёнігсберга рота трапіла пад перакрыжаваны агонь нямецкай артылерыі. Бліндаж, дзе хаваліся байцы, разнесла ўшчэнт. Хваля выбуху "падхапіла" Васіля і разам з зямлёю кінула ўбок. Яго адкапалі, паўжывога даставілі ў санчасць. Кантузія. Пакуты ў шпіталях Каўнаса, Масквы, Ташкента. Моцны арганізм не паддаваўся немачы. Патроху В.Сандрозд стаў на ногі, вярнуўся ў 1945-м дамоў інвалідам другой групы.

— Пенсію тады не плацілі. Давялося жыць за кошт таго, што рабіў людзям. Шафы, сталы, ложкі, — уздыхае Васіль. — Потым калгасы пачалі арганізоўваць. У нас забралі каня, павозку, плуг, гумно, чатыры гектары зямлі. Галякамі засталіся, працавалі за пустыя "палачкі". Не ведаю, як бы і жылі, калі б не тая ж сталярка, мэбля. У нашых Мервінах, у суседніх вёсках вы ў многіх хатах убачыце, як кажуць, тварэнне маіх рук. У клубе, у канторы калгаса ўся сталярка таксама зроблена мною.

— Вы жылі на хутары? Цяпер, бачу, домік ваш адмысловы, як цацка.

— Самі ведаеце, хутары тады крышылі, казалі, маўляў, гэта рассаднік кулакоў. Давялося пераязджаць у вёску. Будаваўся, як і ўсе. Праўда, наняў двух мужчын, каб зруб дапамаглі падняць. Усё астатняе даводзіў сам.

У размову ўступае Марыля:

— Не хваліся, што ўсё ты пыніў тут. І я ж дапамагала габляваць дошкі на падлогу, чысціла бярвенне ад кары.

— Было, было, — неяк сарамліва ўсміхаецца Васіль. — Без жонкі і праўда мне нявыкрутка. Калі дзеці паехалі вучыцца ў Мінск і трэба было іх адзець, абуць, дык мы разам з Марыляй вазілі прадаваць нават у Расею яблыкі, парасят. О, жонка ў мяне дзелавая. Яна — гаспадыня добрая. І пірагі смачныя пячэ, і шыць умее, і вяндліну зробіць — пальчыкі абліжаш. Шкада, што здароўе падводзіць. А быў жа час, калі на калгаснай рабоце яе мала хто мог абагнаць.

— Ты, тата, раскажы пра свой залётны чумаданчык, — гаворыць дачка Ірына, хітра ўсміхаючыся.

— Ды што тут гаварыць, — сарамліва глядзіць на жонку Васіль. — Яшчэ да жаніцьбы заляцаўся я да тваёй маці. У яе хлопцаў было шмат, дзеўка лоўкая, прыгожая. Ну я, каб звярнула ўвагу, зрабіў невялікі чумаданчык, прыгожы, ажно з рук плыве. Выбраў часіну, забег да іх у хату, адчыніў дзверы і паставіў той чумаданчык ля парога. Потым чуў, як бацька Марылі гаварыў суседзям: "Такую рэч мог зрабіць толькі сапраўдны майстар". Мяне гэта акрыліла, смялей пачаў падсаджвацца на вячорках да Марылі.

Жыццё, жыццё... Колькі ўсяго прашумела, праляцела! Сёння Сандрозды — паважаныя ў вёсцы людзі. Праз два гады адзначаць 50 гадоў сумеснага жыцця. Пенсіі ў іх неблагія. Ёсць хлеб і да хлеба. Два разы на тыдзень у сельмаг прывозяць малако, кефір, смятану. Праўда, зараз у абрэз даюць балоны з газам, торфабрыкет. Марознай зімою ў хаце холадна. Мусіць, сельсавету, праўленню калгаса "Шлях да камунізму" не пашкодзіла б тую сціплую норму паліва пераглядзець у бок павышэння. Асабліва для састарэлых людзей. Тых, хто ўсё сваё жыццё працаваў, працаваў, працаваў.

*Канстанцін ПРЫЁМКА. Клецкі раён.*

■ Точка зрения

# ЕСЛИ ЧЕСТНЫЙ ТРУД — СИНОНИМ НИЩЕНСКОЙ ЖИЗНИ

**Сегодня трудно чему-либо удивляться. И все-таки есть одно, что заставляет по-особому смотреть на происходящее. Остановиться, перевести дух, задуматься, наконец. Говорю о нравственности. Она стремительно скатывается к нулевой отметке. Иногда кажется, что мы сходим с ума: всей семьей, всем городом, всей страной. А может быть, так оно и есть?**

Рост цен, спад производства, безработица, экономику разбил паралич. В скорое улучшение жизни никто не верит. В уличных очередях так и говорят: «Без помощи Запада вовсе протянем ноги».

Плохо, конечно, что мы теперь нищие, растерянные и униженные из-за непродуманных действий политиков. Но еще хуже, если в наших душах будет царствовать моральная нищета. Предпосылок к этому предостаточно.

А ведь хватает же средств на частные заграничные командировки у многих начальников, которые потом с удовольствием делятся впечатлениями о «постановке дела» в США, Швеции, Китае, Австралии и т.д. на страницах печати. Я вовсе не против заграничных поездок, но, по самым приблизительным подсчетам, сократи их вдвое — ощутимо пополнилась бы государственная казна.

Руководители ездят на «Мерседесах», «Вольво» и прочих иномарках, которые куплены за доллары, а инвалиду, трудовому человеку нет возможности купить лекарства в наших аптеках. Или дорогие, или их попросту нет.

Правильно ставит вопрос Президент Республики Беларусь: такие руководители нам не нужны. Они не способны принести пользу ни государству, ни народу. Я считаю, что критерием оценки нашей системы управления должен быть материальный уровень людей.

Часто можно услышать: «Никакой перестройки пока нет, посмотрим, что будет дальше». А «дальше» ничего хорошего не будет. До тех пор, пока мы не перестанем полагаться на наше «авось». Авось перестройка произойдет сама собой, авось это будет к лучшему. А нет — что ж, нам не привыкать...

Страшно, но в данном случае пресловутое «авось» может сыграть роковую роль. Мы все надеемся на кого-то и меньше всего ответственности возлагаем на себя. Что ж, нас к этому долго приучали, и вот сейчас мы пожинаем плоды этой «выучки»: я — маленький человек, я — винтик, и в прежних ошибках виноваты все кто угодно — только не я.

Помните сказку про королевство кривых зеркал, где царила ложь, где розу называли крапивой, а бандита и подлеца — приличным человеком? И мы все больше «кривозеркалья» встречаем в повседневной жизни. Сколько было статей, кинофильмов, телепередач, выступлений с больших и малых трибун, искажающих действительность!

К сожалению, не многие из нас имеют мужество признать, что в содеянном повинны все мы. «Каждый народ достоин своего правителя» — мудрость древних остается мудростью и в наши дни. Правительство — это зеркало народа. «В народе» есть честные и не очень, трудолюбивые и с ленцой, есть смелые, а есть и чрезмерно осторожные. Поэтому ожидать от правительства того, что не в силах сделать весь народ в целом, по меньшей мере наивно.

Судьба любой страны складывается из поступков каждого ее гражданина.

Почему мы сначала работаем на «авось» /рассуждая при этом о «высоких материях»/, а потом героически преодолеваем создаваемые нами же трудности? Почему мы не приучили себя честно и хорошо работать? По совести отвечать за сделанное?

На память часто приходят слова Салтыкова-Щедрина: «В наше время очень редко можно встретить довольного человека. Кого ни послушаешь, все на что-то негодуют, жалуются, вопиют. Один говорит, что слишком мало свобод дают, другой — что слишком много, один ропщет на то, что власть бездействует, другой — на то, что власть чересчур достаточно действует. Одни находят, что глупость нас одолела, другие — что слишком умны мы стали. Третьи, наконец, участвуют во всех пакостях и приговаривают: "Ну где такое безобразие видано?" Даже расхитители казенного имущества, и те недовольны, что скоро нечего расхищать будет".

Личные интересы людей разнообразны, часто даже противоречивы. Если нововведения касаются общества в целом, человек на словах выступает «за». Но когда они начинают затрагивать его собственную персону — нередко категорически «против».

Да, одно дело критиковать, другое — принять эту критику и действовать. Еще не так давно маленький мальчик с экрана телевизора восклицал: «Я буду миллионером!»

Ничего бы не имел против такой рекламы, если бы вслед за ней рассказали, как же на самом деле заработать миллион честным трудом. Видимо, подобных примеров нет.

Зато есть хаос и кризис, расхищение общенациональной собственности, которое вот-вот будет возведено в ранг закона. Есть слепое насаждение чуждого нам образа жизни. А в итоге — коррупция, проституция, изощренная преступность, исторический и нравственный нигилизм.

Что может произрасти на такой почве? Уверяю вас: ничего хорошего. У нас уже сформировалось поколение, для которого честный труд — это синоним нищенской жизни. Для которого работа на производстве /одна из почетных, между прочим, ибо создает материальные ценности для всего общества/ превращается в самое страшное жизненное наказание. Для этого поколения получить среднее образование уже является проблемой, так как после девятого класса школьные двери перед многими захлопываются. Диплом, профессия, специальность становятся просто не по карману... А мы все удивляемся, почему так «узок круг» мечтаний тринадцатилетних мальчиков — пойти в наемники, стать телохранителем или рэкетиром, устроиться перекупщиком, почему предел желаний девочек — выйти замуж за принца или стать «боевой» подругой валютчика.

Всякое уважающее себя государство озабочено воспитанием своего будущего. Мы, похоже, пустили его на самотек, даже стыдимся самого слова «воспитание». Будущее не простит нам, взрослым, такого отношения.

Рано или поздно, но мы поймем, что сотворили.

И главными ответчиками в этом деле будем мы сами. Поэтому, признавая свою вину, надо находить в себе силы и мужество исправлять ошибки.

Оставить все, как было, мы не вправе. Хотя бы для того, чтобы у наших детей не опускались от бессилия руки, не опустошались от неверия души. Наши ошибки нам же и исправлять.

*Сергей БУРЛО.*

Алесь ШЛЕГ

# Сталінскія байстрюкі

(Працяг. Пачатак у №№88, 89)

II

Вуліца, на якой жылі Шура Карэньчык і Эдзік Ждановіч, называлася Свабоднай. У канцы яе стаяла вялізная бела-каменная царква. Зірнуўшы на яе зялёны купал, Шура ўспомніў, што ў падвале царквы жывуць аднакласнікі, браты Сяргей і Грышка Булавешкі. Бацька іхні быў вартавы і званар. З гэтай нагоды поп адшкадаваў ім адзін з падвалаў для жылля. Гэта было змрочнае памяшканне з адзіным акенцам пад самай столлю. Пасярод яго стаяла "буржуйка", зробленая з жалезнай бочкі. Труба ад яе выходзіла ў акенца. Калі не гарэла лямпа або кавалак аплылай стэарынавай свечкі, у памяшканні панаваў шэры змрок. Сяргей быў старэйшы за Грышку, ён па два гады сядзеў у шостым і сёмым класе. Як браты рыхтавалі ўрокі ў такой цемначы, для Шуры заставалася загадкай. Яны былі ад розных бацькоў і не дужа шанавалі адзін аднаго. Прыгожага, падобнага на херувімчыка Грышку любіў магутны, з барадой да пояса, дыякан. Ён старанна падкормліваў яго, апранаў. На ім заўсёды была чыстая кашуля і штаны, якія туга абцягвалі яго зусім не хлапечы азадак. Чысценькі і лагодненькі Грышка рэзка розніўся ад негаваркога, у залапленых штанах Сяргея. Шура Карэньчык ні разу не быў на царкоўнай службе, бо Бога бацька ўспамінаў толькі ў мацюках. Аднойчы ў нядзелю, згаварыўшыся з Эдзікам Ждановічам, яны сціпленька праціснуліся праз натоўп веруючых і, задраўшы галовы, з захапленнем разглядвалі дзівосныя фрэскі на столі і сценах. Такога хараства Шура яшчэ нідзе не бачыў. Твары святых былі на дзіва чалавечымі, міласэрнымі і добрымі. Агульнае ўражанне ўзмацняў малітоўна-пяшчотны жаночы хор. Грымнуў басам дыякан з амбона. Шура схамянуўся і пашукаў вачыма Эдзіка. Той вылупіўшы вочы глядзеў туды, дзе былі раззалочаныя вароты. Яны павольна расхінуліся, адтуль урачыста выплыў поп. Па баках яго ішлі ў беласнежным адзенні Сяргей і Грышка. Шура аслупянеў. Нехта шчыкнуў яго за бок. Ён павярнуўся. Эдзік Ждановіч паказваў яму вачыма на Вальку Зубава, які стаяў амаль побач. Яны задам пасунуліся ад яго і ціхенька выбраліся з натоўпу. Але ў Валькі Зубава былі добрыя вочы. Школьны камсамольскі сакратар Вітольд Шпак два разы прыходзіў дамоў, але, на шчасце, не заспеў нікога з бацькоў. Калі ён трэці раз ішоў са сваёй высокай місіяй, хлопцы перастрэлі яго на вуліцы і так натаўклі, што ён навек забыў дарогу да Шуравага дому. Калі ж разбіралі паводзіны Сяргея і Грышкі Булавешак, класная мамзель абурана спытала ў іх, чаму яны пайшлі служкамі да папа. "Таму што бацюшка плоціць за нас бацьку пяцьдзесят рублёў і дазваляе нам рабіць урокі ў пакойчыку старасты", — пачырванеўшы, адказаў Сяргей. "А каб вы адмовіліся?" — не сунімалася класная. "Тады б... тады б нам не было дзе чытаць і пісаць", — апусціў галаву Сяргей. "Ты вельмі неахайны, — сказала яму класная. — Паглядзі на сябе і паглядзі на свайго брата. Хіба вам бацькі не аднолькава купляюць адзежу?" "А вы ў яго самі спытайце!" — вызверыўся Сяргей. Усе павярнуліся да Грышкі. Ён падхапіўся і кінуўся з класа. Узняўся гармідар. Валька Зубаў сядзеў на першай парце і сціпла маўчаў. Братоў выключылі са школы. Сяргей падпільнаваў Вальку Зубава, адным ударам збіў яго з ног. Выцягнуўшы з Валькавай кішэні новенькі камсамольскі білет, раз"юшана разадраў яго і шпурнуў яму ў скрываўлены твар. Ноччу Сяргея арыштавалі...

— Што ты на царкву так загледзеўся? — абарваў Шуравы ўспаміны Эдзікаў голас. — Ці не памаліцца хочаш?

— Ды ўспомніўся Сяргей Булавешка. Што з ім, не ведаеш?

— Днямі бачыў яго матку — з базару ішла. Сказала, што загналі Сяргея туды, дзе Макар цялят пасе. І пісьмы пісаць няможна. Забаранілі.

— Шурык; прывецік!

Да іх падыходзіла кульгавая Рыта. Гады са тры назад у яе захварэла левая нага. І цяпер на ёй быў бандаж, зроблены са сталёвых пласцін, абцягнутых хромам. У Рыты былі вялізныя чорныя вочы, доўгія, колеру чырвонай медзі, валасы. Яна скончыла дзевяты клас іхняй школы. Рыта да слёз пакутавала, калі вулічныя хлапчукі, яшчэ здалёк убачыўшы яе, пачыналі артыстычна накульгваць і крычаць: "Руб-сорак! Руб-сорак!" Гэты крык заставаў яе знянацку, бо яна мела звычку чытаць на хаду. Маці яе, базарная гандлярка Люба, была найлепшай сяброўкай Шуравай мачахі. Часам яны даволі бесцырымонна, але з гумарам, абмяркоўвалі пры ім мужчынскія годнасці сваіх знаёмцаў. Люба магла падскочыць да Шуры, памацаць між ног і, заліваючыся смехам, сказаць: "Слухай, Зося! А ў яго ўжо там нішто сабе! Можа, ты мне яго на ночку пазычыш? Ці ты сама хочаш пробу зняць?" Мачаха замахвалася на яе чым пападзе, а Шура вылятаў з пакоя. Аднак пасля гэтага чамусьці адчуваў нейкую гарачую ўзбуджанасць, якая не хутка затухала.

— Цябе твая мамачка шукала, — падышоўшы, паведаміла Рыта. — Па малако ёй не было каму ісці. Пасылалі на машыне бацьку Аліка Рогача. Цяпер не зайздрошчу я табе, Шурык.

— Рытка, ты мяне не бачыла, — змрочна сказаў Шура. — Зразумела?

— Безумоўна, — сумна ўсміхнулася яна. — Вы хоць што-небудзь елі сёння?

— Ды вось стаім і абмяркоўваем, у які рэстаран падацца, — уздыхнуў Шура. — Можа, у цябе прапановы ёсць?

— Толькі адна: пайшлі да мяне. Мама паехала ў Мінск, вернецца заўтра вечарам.

— Прапанова прымаецца. Ідзі, мы за табой. Не трэба, каб нас разам бачылі.

Гледзячы ёй услед, Шура падумаў, што ўзаемнае прыцягненне, іхняя блізкасць пачалася пасля таго, як Валька Зубаў, папярэдне падкупіўшы малых шпанюкоў цукеркамі, падвучыў іх вырваць у Рыты партфель і высыпаць яе кнігі ў калюжыну. Малыя наляцелі на Рыту знячэўку. Шура тады якраз пераходзіў вуліцу. Ён рынуўся да хлапчукоў, надаваў ім выспяткаў і, падабраўшы партфель, пачаў збіраць з зямлі параскіданыя падручнікі і сшыткі. Распатланая Рыта стаяла пры плоце і калацілася ад рыданняў. Востры жаль да гэтай бездапаможнай, амаль дарослай дзяўчыны працяў яго нутро. "Хто ж гэта мог ёй так падстроіць?" — закіпаючы злосцю, падумаў ён.

— Шура, гэта Валька іх падвуцыў за цукеркі, — сказала шасціgадовая дачка прыбіральшчыцы з бацькавай канторы. — Я чула, як ён падвуцваў.

"Як жа цябе, гада, з двара выманіць? — пагладзіўшы дзяўчынку, падумаў ён. — Вунь ты за кустом бэзу хаваешся". Пакуль Рыта падбірала свае школьныя дробныя рэчы, прысланіў да плота партфель і накіраваўся да веснічак Зубавых.

— Валька, не бойся, — як мага лагодней сказаў ён. — Я ў Рыткі трыццатку падабраў. З партфеля выпала. Цяпер — жывём. Толькі ты глядзі, нікому пра гэта не фраерыся!

Валька тут жа апынуўся ля веснічак.

— Папалам трыццатку! — запатрабаваў ён. І вочы яго прагна заблішчэлі. — Папалам! Мне нават больш, бо з партфелем — мая прыдумка!

Валька выскачыў за веснічкі. Шура са смакам засмаліў яму ў вуха. Грабянуў з зямлі жменю каровячай аладкі і пачаў размазваць яе па мурлатым Вальчыным твары. Зубаў закашляўся, закрычаў і рынуўся ў свой двор. На супроцьлеглым баку вуліцы ажно прысядалі, душачыся смехам, малыя. Шура пагразіў ім забруджаным кулаком і пачаў у калюжыне мыць рукі. Ззаду падышла Рыта. Ён гэта зразумеў па ціхаму парыпванню пратэза.

— Дзякуй, Шурык! — ціха сказала яна. — Я і не думала, што ты такі... такі шалёны...

Яны пачалі ўпотай сустракацца. Яна не хацела, каб іх разам бачылі, бо лічыла сябе ўжо зусім дарослай. Дарэмна даводзіў, што ён на год старэйшы за яе, што метрыкі аб нараджэнні згарэлі і медыкі паставілі яму ўзрост прыблізна, на вока. Апошняя сустрэча ў іх адбылася ноччу, на гарышчы. Яна баязліва лезла па драбінах і ўздыгвала ад кожнага шолаху. Потым яны ляжалі на гушкалцы-ложку і горача цалаваліся. Цалаваліся да таго часу, пакуль не правалілліся ў салодкае бяспамяцтва...

Ужо некалькі тыдняў яны не бачыліся. Ён пазбягаў сустрэч, яму здавалася, што згарыць ад сораму, калі ўбачыць яе днём. І вось яны зараз выпадкова сутыкнуліся на вуліцы, але ніякага сораму ён не адчуваў. Узнікла толькі замілаванне і нейкая яму самому незразумелая пяшчотная ўдзячнасць Рыце. І яшчэ аднекуль з"явілася ўпартае пераканане, што так жыць, як жыў дагэтуль, ён ужо не зможа. Не зможа, бо гэта звыш яго сіл. Што ўжо цяпер ніколі не дазволіць бацьку, як нейкага шчанюка, біць сябе.

— Пайшлі, — сказаў Эдзік Ждановіч, — а то я ад голаду самога сябе праглыну.

Яны падышлі да двухпавярховага, пабудаванага палоннымі немцамі, барака. Рыта з маткай жылі на першым паверсе. Невялікі пакой папалам перагароджвала фіранка з жоўтымі кветкамі. Каля дзвярэй на табурэце ўжо сіпеў прымус, на якім стаяла каструля. Пры акне ўтульна месцілася канапа з круглымі валікамі па баках. Шура сеў на яе, яшчэ раз агледзеўся і заўважыў, што тут ва ўсім адчувалася адсутнасць мужчынскай рукі. Калі ён аднойчы спытаў у Рыты, чаму яна без бацькі, яна прыклала палец да яго губ і, памаўчаўшы, сказала: "Гэта доўгая гісторыя, табе, Шурык, лепей пра яе не ведаць".

— Сядайце да стала! — весела запрасіла Рыта. — Пярловы суп вышэйшага гатунку. Дабаўкі не прасіце, бо выліла ўсё.

Яны накінуліся на суп з такой прагнасцю, што Рыта толькі галавой пахітала. Пшонную кашу з салам елі спакайней, адчуваючы смак кожнай лыжкі. Папіўшы чаю з "падушачкамі", зусім размарнелі. Шура сеў на канапу, удзячна ўсміхнуўся Рыце і адчуў, што вочы яго зліпаюцца. Давала знаць аб сабе трывожная бессань ночы. Галасы Рыты і Эдзіка сталі слабейшыя, а потым вушы нібы хто заткнуў ватай.

Ён ляжаў пад вадой між купін і, зацісну ўшы пальцамі нос, дыхаў праз чарацінку. Недзе там, наверсе, уставала сонца. Калі адкрываў вочы, яно сляпіла яго сваімі промнямі. Узмоцненыя вадой, білі ў вушы рэзкія галасы немцаў, галашэнне жанчын і крыкі дзяцей. Гулка прагрукатала побач аўтаматная чарга, прымусіла яго сцяцца, спыніць дыханне. Пачало распіраць грудзі, і ён змушаны быў глыбока ўцягнуць у сябе паветра. Ледзь толькі выдыхнуў яго праз чарацінку, побліз пачуў раз"юшаны брэх сабакі. Стаіў дыханне і, шырока адкрыўшы вочы, глядзеў у бок берага. За нейкія два метры ад яго стаяў аўтаматчык. Ён падтыкваў пад рэмень крысо шыняля, збіраючыся ступіць у ваду. Амаль зусім побач пачуўся плач немаўляці. Ён далятаў з плеценага каша, які, нахіліўшыся, цудам трымаўся на суседняй купіне. Маці малога, перапалавіненая чаргой, ляжала за спінай Шуры і ўпіралася босымі нагамі ў яго бок. Аўтаматчык увайшоў у ваду, каваным ботам пераступіў праз Шуравы грудзі і зняў кош з купіны. Вада закаламуцілася, пацямнела. Заплёхалі боты немца і сціхлі. Разлягаўся над вадой крык немаўляці. Не могучы болей трываць, прагна ўцягнуў паветра. Нацадзіўшы яго праз чараціну, наладзіўшы дыханне, адчуў палёгку і напружыў слых. Брэх сабак і жаночае галашэнне сціхалі. Ён счакаў, пакуль яны не сунімуцца, і выткнуў галаву з вады. На беразе вострава, дзе месціўся сямейны партызанскі лагер, нікога не было. Чалавечыя галасы ледзь чутна далятаў здаля. Ён трохі павагаўся і папоўз да берага. І толькі тады адчуў, што ад восеньскай вады цела б"е дрыготка. Тоячыся, дабраўся да будана, у якім жыў з бацькавай сястрой і яе двума сынамі, зазірнуў у яго і, нікога не згледзеўшы, шмыгнуў туды. Калоцячыся, сцягнуў з сябе вопратку, абкруціўся па голым целе коўдрай і стаў думаць, што рабіць далей. Трэба было прыдбаць якую вопратку.

(Заканчэнне будзе)

# ЗВЕЗДА СВЕТИТ ВЕЧНО

*Памяти Анны Герман*

ВОТ УЖЕ двенадцать лет, как ушла из жизни удивительная певица, обладавшая чарующим голосом, — Анна Герман. Но до сих пор невозможно поверить в это роковое событие. Просто не могло, не должно было такое произойти...

1964 год. Голубоглазая, золотоволосая, олицетворение женственности, в один счастливый день она покорила Сопот "Танцующими эвридиками", а потом покорила весь мир. Три года триумфального успеха — и вдруг страшное известие: в Италии попала в автомобильную катастрофу, положение тяжелое...

Разбитый "фиат" нашли только под утро. В двадцати метрах от него лежала женщина. Дорожная полиция установила ее имя — польская артистка Анна Герман. Авария произошла ночью по дороге в Милан. Врачи не знали, с чего начинать спасение. Очень долго оставалась без памяти, не могла сказать ни слова... Пять месяцев лежала "замурованной" в гипс. Еще столько же — полная неподвижность без гипса... Два итальянских госпиталя и три польские больницы возвращали ее к жизни. Через два года начала упражнения с памятью — ведь не помнила ни одной песни. Потом попыталась петь — шепотом и понемножку...

Родилась Анна Герман в 1935 году в городе Ургенче (Узбекистан). Здесь ее вместе с мамой и бабушкой застала война. В Ургенче она пошла в школу. А после окончания войны вся семья Анны переехала в Польшу, в город Вроцлав.

Петь Анечка начала с раннего детства, но, как говорила сама певица, серьезное увлечение песней пришло в последний год учебы в университете. Она занималась тогда в студенческом театре "Каламбур". Подруга подсказала ей обратиться в дирекцию Вроцлавской эстрады. Прослушивание — и первый настоящий успех: Анну зачислили в штат.

За два года на фестивалях в Сопоте, Ополе, Ульштине она получает семь первых премий и лавровый венок Международного фестиваля в Остенде. Анна Герман гастролирует по Англии, Франции, США. С огромной радостью приезжает в Советский Союз. Первый же концерт в Москве отверг ее сомнения и опасения (ведь поет по-русски и нет сверхмодных песен): зал взорвался криками "браво!" Зрители казались ей давно знакомыми.

Затем та роковая поездка в Италию. Авария...

Благодаря великому мужеству, она не только выжила и стала ходить, но и начала работать над собственной программой, сочинять музыку. Одну из своих песен — "Спасибо, мама" — Анна посвятила самому дорогому человеку. Она давно мечтала поведать о своей маме, которая одна вырастила дочку и навсегда осталась самой родной и близкой.

Были гастроли по родной Польше, новая встреча с Москвой. Казалось, все ужасное позади, возвращается ощущение полноты жизни, успех, слава, любимая работа, желание творить, дарить людям радость.

Но возобновились боли, петь становилось все труднее, стала сильно уставать. Анна лечилась голодом, травами, обращалась к экстрасенсам. Наступало временное улучшение. Но вскоре опытные врачи-онкологи принимают решение немедленно оперировать. Из больницы ее, прооперированную, выписали довольно скоро, улучшения же не наступило. 26 августа 1982 года Анна Герман умерла.

...В самые трудные годы певицу горячо поддерживали друзья. Некоторые специально создавали для нее песни. Среди таких песен — "Надежда" Александры Пахмутовой и Николая Добронравова. Как она пела эту выстраданную ею песню! Казалось, надежда никогда не покинет ее.

Сегодня, к сожалению, не часто звучит по радио и телевидению удивительный голос Анны Герман, но песни, которые она пела, живут в сердцах миллионов людей. Ибо пела она сердцем — чистым и добрым, щедрым и золотым. Забыть ее невозможно, как невозможно погасить солнце. Звезда светит вечно. И несет свой животворный свет в наши души, вдохновляя, исцеляя, очеловечивая и бесконечно волнуя.

Михаил ПОЗДНЯКОВ.




## Свекольник холодный

3 морковки, 1 стакан кислого молока, 4 свеклы с ботвой, 2 перышка зеленого лука, 1,5 л воды, 6 свежих огурцов, соль, лимонная кислота, 1 ст.ложка сахара, укроп.

Ботву отделить от корнеплодов, тщательно промыть, мелко порубить. Свеклу и морковь промыть, срезать темные места и пропустить через мясорубку. Ботву и овощи смешать, залить горячей водой, положить соль, сахар, лимонную кислоту, быстро довести до кипения. Закрыть посуду крышкой, настаивать 10—15 минут, охладить, добавить нарезанные соломкой огурцы, кислое молоко. Подавать с зеленым луком и укропом.

## Свекольник с крапивой

5 шт. свеклы с ботвой, 4 ст.ложки рубленых листьев крапивы, 2 луковицы, 1 морковь, 4 ст.ложки растительного масла, 2 ст.ложки рубленой зелени кинзы, 2 л воды, 4 ст.ложки сметаны, 1 ст.ложка томатного пюре, соль, молотый перец.

Свеклу, морковь и репчатый лук нарезать соломкой, черешки свеклы — кубиками. К овощам добавить растительное масло, томатную пасту, немного воды и тушить 3—5 мин., затем положить рубленые листья свеклы, влить оставшуюся горячую воду. Смесь довести до кипения, добавить соль, молотый перец и охладить. В тарелку положить рубленую крапиву, залить свекольником, добавить сметану и зелень кинзы.

## Щи зеленые холодные

200 г свеклы с ботвой, 200 г щавеля, 200 г шпината, 200 г молодых листьев крапивы, 4 ст.ложки сметаны, 3 яйца, 2 чайные ложки сахара, 1,5 л воды, зелень петрушки, укропа.

Хорошо промытые и крупно нарезанные свеклу, ее листья, крапиву, щавель залить кипятком, варить 3 мин., охладить. В холодные щи добавить сметану, сахар, мелко нарезанные зелень и яйцо вкрутую.

■ Спорт

## З ВЫСОКІМ ЗВАННЕМ

Галоўны спецыяліст Мінскага аблспорткамітэта Уладзімір Грыцэвіч і намеснік дырэктара РСДЮШАР Міністэрства адукацыі Беларусі Леанід Назарук былі запрошаны на міжнародны семінар суддзяў па гандболу, які на працягу пяці дзён праходзіў у Славеніі.

Па выніках семінара, дзе ўдзельнікі здавалі экзамены па фізічнай і спецыяльнай падрыхтоўцы, У.Грыцэвічу і Л.Назаруку прысвоены званні суддзяў міжнароднай катэгорыі. Яны ўжо атрымалі назначэнні на судзейства ў еўрапейскіх кубках і міжнародных турнірах.

## ВЫБЫЛІ З БАРАЦЬБЫ

Паўторны матч розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў бабруйскі "Фандок" прайграў у Албаніі клубу "Цірана" — 0:3. Хоць першы матч "Фандок" выйграў таксама з перавагай у тры мячы — 4:1, працягваць удзел у розыгрышы будуць футбалісты Албаніі. Вырашаючую ролю адыграў мяч, які "Цірана" забіла ў канцы матча ў Мінску.

## ЛІДЗІРУЮЦЬ "БЕЛЫЯ РОСЫ"

Пасля трынаццаці тураў на чэмпіянаце вобласці па футболу лідзіруе каманда "Белыя Росы" з Першай мінскай птушкафабрыкі. У яе 22 ачкі. Птушкаводы ў апошніх двух турах згулялі ўнічыю з капыльскім "Меліяратарам" — 2:2 і выйгралі ў вілейскага "Камунальніка" — 3:2.

Па 19 ачкоў маюць смалявіцкі "Крышталь" і мар"інагорскі "Бетпласт". У дванаццатым туры яны адпаведна перамаглі футбалістаў "Стара-Барысава" — 3:1 і старобінскі "Аўтамабіліст" — 2:1, а ў трынаццатым — фаніпальскі "Маналіт" — 3:0 і ўздзенскі "Нёман" — 3:2.

Упэўнена выступае "Верас" з калгаса "17 верасня" Нясвіжскага раёна. У апошніх двух турах гэтая каманда з буйным вынікам нанесла паражэнне старадарожскай "Арэсе" — 6:1 і старобінскаму "Аўтамабілісту" — 5:0 і мае ў сваім актыве 18 ачкоў.

У "Меліяратара" — 16, "Камунальніка" — 11, "Арэсы", "Маналіта" і валожынскай "Іслачы" — па 10, "Аўтамабіліста" і "Стара-Барысава" — па 9 і ў "Нёмана" — 3 ачкі.

Сёння — чарговы тур.

Павел ЖУРБА.

З залы суда

## ПАСЛУЖЛІВЫЯ ХЛОПЧЫКІ

Знаёмства было шапачнае. У вячэрнім дызель-поездзе «Салігорск—Слуцк» ехалі васемнаццацігадовыя, нідзе не працуючыя хлопцы — Сяргей Аляшкевіч і Вадзім Пятроўскі. Абодва салігорцы. На выгляд — у меру ветлівыя, не выпіўшыя, без якіх-небудзь прыкмет агрэсіўнасці ў вачах. Насупраць іх сядзела саракачатырохгадовая жыхарка Слуцка Вольга Ч. Хлопцы спыталі ў яе, колькі часу. Тая адказала, што не мае гадзінніка. Яны яшчэ аб чымсьці пыталіся ў яе, але жанчына ўхілялася ад гутаркі.

Сышлі на станцыі «Слуцк» разам. Вольга прагаласавала праходзіўшаму аўтобусу, шафёр прытармазіў, у салон зайшлі і тыя вагонныя спадарожнікі. У цэнтры горада сышлі. Хлопцы прапанавалі Вользе паднесці яе сумку. Яна пагадзілася, каля свайго дома падзякавала за паслугу. Адзін з хлопцаў пацікавіўся чамусьці, з кім яна жыве. Вольга шчыра адказала: з сынам і сужыцелем. На тым і разышліся.

Далей усё разгортвалася як у кінадэтэктыве. Хвілін праз дзесяць тыя хлопцы пазванілі ў дзверы кватэры Вольгі. Жанчына прыадчыніла іх, Аляшкевіч і Пятроўскі рашуча зайшлі ў прыхожую. Пятроўскі на стале ў кухні схапіў нож і наставіў яго на Вольгу. Пагражаючы, загадаў:

— Неадкладна аддай мне два пярсцёнкі, завушніцы, ланцужок з крыжыкам! Інакш будзе дрэнна!

Рэчы гэтыя рабаўнік угледзеў яшчэ ў вагоне. Аднак гаспадыня не разгубілася і стала супраціўляцца, спрабавала адвесці ад сябе нож і па неасцярожнасці нават парэзала руку. Пакуль паміж імі ішла валтузня, Аляшкевіч паспеў выцягнуць з сумкі гаспадыні 480 рублёў, прыхапіць з шафы дзве бутэлькі спіртнога — гарэлку і лікёр, аўдыёкасету «Соні», плітку шакаладу. Пасля чаго абодва рабаўнікі далі драпака. Вольга пазваніла ў міліцыю. Адтуль хутка прыбылі тры супрацоўнікі. Разам з гаспадыняй яны паехалі на аўтавакзал, і пацярпеўшая апазнала там Аляшкевіча. А неўзабаве ў гарадскім аўтобусе быў затрыманы з доказамі злачынства і яго сябрук — Пятроўскі. Такую б аператыўнасць нашай міліцыі ды кожны дзень!

І быў суд. Віна маладых грабежнікаў даказана як пацярпеўшай, так і сведкамі. Прыгавор быў такі: і С.Аляшкевіч, і В.Пятроўскі асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Усе, хто прысутнічаў у зале суда, былі здзіўлены тым, як проста, па-будзённаму ішлі хлопцы на цяжкае злачынства — быццам на спатканне з дзяўчатамі. А гэта — трывожны сігнал, калі людзі так лёгка развітваюцца са свабодай —нібы цётка Дуся з гарбузікамі...

Міхась АДАМАЎ.



Хатні экран

### 27 жніўня, субота

*Беларускае тэлебачанне*

16.05. Тэлевізійны Дом кіно.
17.05. Юбілейны вечар народнага артыста Беларусі Віктара Вуячыча.
19.05. "Нов і К"-топ-10.
20.05. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
20.30. Пяць хвілін на жарты.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Каханне немаладога чалавека". Маст.фільм.
22.55. Пад купалам Сусвету.
23.05. "Каскад".
23.25. Відзьма-нявідзьма.

*Канал "Астанкіна"*

15.50. Кінаканцэрт "Надзвычайны цуд".
16.20. Чакайце адказу.
16.55. Футбол. "Лакаматыў" (Масква) — КамАЗ.
17.55. Да і пасля...
18.45. "Айвенга". 2-я серыя.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны плюс.
20.35, 22.25. Надвор'е.
20.45. "Камісар". Тэлесерыял.
21.45. Смехапанарама. Вядучы — Я.Петрасян.
22.35. Ялта—Масква—транзіт-94.

*Канал "Расія"*

14.45. "Брыльянтавая рука". Маст.фільм.
16.35. Свята кожны дзень.
16.45. Вуснамі дзіцяці.
17.15. Тэлеэрудыт.
17.20. "Вочы чорныя". Маст.фільм.
19.00, 22.00. Весткі.
20.45. Фільм-прэм'ер.
21.05. Зусім сакрэтна.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Праграма "А".
23.35. "Барабаніяда".

*Санкт-Пецярбург*

17.30, 18.30, 21.45. Інфарм ТБ.
17.55, 18.55. Экспрэс-кіно.
19.15. "Страсці".
20.45. "Наглядзіцеся, вочы ясныя".
21.30. Накцюрн Ф.Шапэна.
22.05. Ваш стыль.
22.10. Адам і Ева +.
22.40. "Трывожныя ночы ў Самары". Маст.фільм.

### 28 жніўня, нядзеля

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Пяць хвілін на жарты.
8.25. Слова да чалавека.
8.55. Справы вайсковыя.
9.40. Урокі здароўя.
10.05. Нядзельная пропаведзь свяшчэнніка Аляксія Шынкевіча.
10.15. Беларускі тур.
10.35. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
11.00. "Каханне немаладога чалавека". Маст.фільм.
12.20. АВС-клуб.
12.35. Аэробіка. Урокі Наталлі Наважылавай.
13.05. MTV. Лепшыя хіты.
13.35. Кола дзён. Беларуская дуда.
14.00. Асілак.
15.00. Шоу-TV "Тры апельсіны".
15.15. Паміж намі, жанчынамі.
16.00. "Чарцяня № 13", "Ласяня", "Аўтамабіль ката Леапольда". Мультфільмы.
16.30. Наталі. Праграма для жанчын.
16.50. Чэмпіянат Беларусі па мастацкай гімнастыцы.
17.30. "І за гарою пакланюся...". Ф.М.Янкоўскі.
18.05. Дзелавы веснік.
18.20. Тэлеклуб "Гаў-гаў".
19.00. "Чарапашкі ніндзя". Мультфільм.
19.25. "Гінес-шоу".
20.00. Панарама.
20.35. Пяць хвілін на жарты.
20.40. Калыханка.
21.00. Пад купалам Сусвету.
21.15. "Дзве жанчыны". Маст.фільм.
23.00. Камп'ютэрны палігон.
23.15. Футбол. "Нёман" (Гродна) — "Дынама" (Мінск).

*Канал "Астанкіна"*

8.00. Марафон-15.
8.30. Раным-рана.
9.00. Палігон.
9.30. Пакуль усе дома.
10.00. Ранішняя зорка.
10.55. Зямля людзей.
11.40. Палітра. Сальвадор Далі.
12.05. Навукова-папулярны фільм.
12.55. "Шпаргалка з падарункам".
13.10. "Падводная адысея каманды Кусто". Д/ф.
14.00, 17.20, 23.00. Навіны.
14.20. "Русскій міръ".
14.50. Мініяцюра.
15.05. Жывое дрэва рамёстваў.
15.10. Японія з А.Калошыным.
15.45. Музыка ў эфіры.
16.30. Клуб падарожнікаў.
17.30. Тэлелоцыя.
17.45. "Баскетбольная ліхаманка", "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды". Мультфільмы.
18.45. Бамонд.
19.00. Надвор'е.
19.05. "Авантурысты". Маст.фільм.
21.00. Нядзеля.
21.50. Спартыўны уік-энд.
22.10. Ялта—Масква—транзіт-94.

*Канал "Расія"*

8.00, 13.00, 19.00. Весткі.
7.25. "Смерць прасвятой багародзіцы". Д/ф.
7.45. Здарова жывеш...
8.00. Канцэрт аўтарскай песні. А.Асокін.
8.30. Студыя "Рост".
9.00. Табліца множання.
9.30. Добрай раніцы. "Снеданне для чэмпіёнаў".
10.00. Аты-баты...
10.30. Смачна, вельмі смачна.
10.40. Дэ факта. Міжнародная праграма.
11.10. "Надзвычайныя прыгоды барона Мюнхгаўзена".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.20. Не высечы...
13.35. Джаз-клуб.
14.05. Белая варона.
14.50. "Формула-І".
17.00. "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч". Мультфільмы.
18.00. Свята кожны дзень.
18.10. Каробка перадач.
18.25. У Ксюшы.
19.25. "Такім гульням цябе не вучылі".
21.10. Кліп-антракт. А.Укупнік.
21.20. Футбол. "Мілан" — "Сампдорыя".
23.20. Аўтаімгненне.
23.25. Зоркі гавораць.
23.30. Спартыўная карусель

*Санкт-Пецярбург*

9.00. Праграма-набажэнства.
9.30. "Клемянціна".
10.00. Экспрэс-кіно.
10.15. Тэлефільм.
11.00. Нядзельны лабірынт.
12.30. "Казімір Малевіч".
13.30. "Ціхая дама" С.Шолахава.
14.30. Сем сланоў.
15.00. Тэлеклуб "Класіка".
16.20. Казка за казкай.
16.55. "Следства вядуць "знатакі"".
18.30. Інфарм ТБ.
18.55. Аўтапілот.
19.10. "Следства вядуць "знатакі"".
20.20. "Рабі раз".
21.45. Ваш стыль.

### 8 канал

*27 августа, суббота*

15.00. Художественный фильм "Герои неистовых".
16.30. Проповедник Кеннет Коупленд.
17.00. Мультсериал "Трансформеры", 76, 77 серии.
17.45. Приключенческий сериал "Залив Опасный": "Сольный полет".
18.10. "Нашествие Наполеона на Москву" из цикла "Исторические сражения".
19.05. Телесериал "Цветок страсти", 76, 77 серии.
20.30. Фирма "Кедбери" и ММ-4 представляют музыкальную программу.
21.35. Художественный фильм.

*28 августа, воскресенье*

15.00. Мультсериал "Трансформеры", 78, 79, 80 серии.
16.10. Художественный фильм "На гранатовых островах".
17.45. Комедийное шоу "Скрытая камера".
18.15. Телесериал "Цветок страсти", 78, 79, 80 серии.
20.40. Спорт-секрет.
21.05. Кино Германии. Художественный фильм "В году черепахи".
22.40. Foxy music.

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск,
вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9,
рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы —(8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.

Тыраж 16550. Індэкс 63923. Зак №90.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12